# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“),
(13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг. Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 24 (306) — Нядзеля, 10 чэрвеня 1956 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


## Чарговае высяленьне ў Сібір

Адным з праступных мэтадаў савецкае «нацыянальнае палітыкі» ёсьць прыкрываная аблуднай фразай «дабравольнасьці», зьмешваньне й перамешваньне насельніцтва розных нацыянальнасьцяў, каб гэткім чынам яго нацыянальна засыміляваць і, растапіўшы ў вадзіным расейскім моры, тварыць г. зв. «савецкі народ». Дзеля таго, што гэты «савецкі народ» фармуецца на базе расейскае мовы, культуры, патрыятызму й навет расейскага мэсіянізму, маем тут нішто іншае, як новую форму русыфікацыі нерасейскіх народаў, пры гэтым форму найбольш пэрфідную й эфэктоўную, якой у сваім русыфікатарскім шале ня знала навет царская Расея.

Гэтак, апрача масавых высылак у Сібір, Казахстан, палярную Поўнач, на Камчатку або Сахалін, праводжаных за ўвесь час існаваньня Савецкага Саюзу ворганамі дзяржаўнае бясьпечнасьці ў прымусовым парадку і ў форме пакараньня «ворагаў народу» або «сацыяльна небясьпечнага элемэнту», апошнім часам, ужо пасьля сьмерці Сталіна й пры «зьмякчэньні» палітычнага курсу новым «калектыўным кіраўніцтвам», пачалі практыкавацца ў масавых маштабах і г. зв. «дабравольныя» выезды й перасяленьні на асваеньне цальняговых земляў у Казахстане й Сібіры або на лясныя работы ў Карэла-Фінскай ССР. Толькі з аднэй Беларусі і толькі адных камсамольцаў навет згодна афіцыяльных дадзеных савецкае прэсы ў 1954—1955 гг. выехала «дабравольна» на асваеньне цальняговых земляў 20 тысяч чалавек. А колькі выехала не камсамольцаў і цэлых сем'яў, аб гэтым маўчыць савецкая прэса.

Словы «дабравольныя выезды», «дабравольныя перасяленьні» трэба разумець пасавецку. Бо-ж і калектывізацыя, гэтая найважлівейшая форма сучаснага прыгону, праводзілася таксама «дабравольна», «на жаданьне» самых сялян. На «дамаганьне» беднякоў і серадцякоў ды навет на падставе іхных «пастановаў» праводзілася й неразьдзельная ад калектывізацыі акцыя «раскулачваньня» і «ліквідацыя кулакоў, як клясы», што палягала на арыштах і прымусовых ссылках у Сібір або ў канцэнтрацыйныя лягеры найбольш передавога й прагрэсыўнага сялянства.

19 травеня сёлета народы Савецкага Саюзу даведаліся, што Крэмль пастанавіў распачаць новую хвалю масавых высылак моладзі нерасейскіх народаў, у тым ліку й Беларусаў, у Сібір, гэтым разам на сталае там жыхарства і на індустрыяльныя працы. У гэтым дні быў абвешчаны «зварот» ЦК КПСС і рады міністраў СССР да моладзі заходніх частак Савецкага Саюзу аб тым, што патрабуецца паўмільёна камсамольцаў на выезд у ўсходнія акругі Савецкага Саюзу — у Сібір, Далёкі Ўсход, Далёкую Поўнач і Казахстан. У «звароце» вымагаецца ад кіраўніцтва камсамолу «накіроўваць сваіх найлепшых таварышаў» на пабудову электрастанцыяў, мэталюргічных, хімічных, нафтаперагонных і машынабудаўляных заводаў, руднікоў і вуглякопных шахтаў, чытунак і г. п. Гэтая поўмільёнаная колькасьць мае быць завэрбаваная на працягу 1956—1957 гг. галоўна з Масквы, Ленінграду, Кіева, **Менску**, Адэсы, Харкава, Растова на Доне, Тбілісі, Баку, Ерэвану і іншых гарадоў нерасейскіх рэспублікаў. Сюды мае ўвайсьці таксама моладзь, якая скончыла або канчае сярэднія школы. Апрача гэтага, маюць быць высланыя й дэмабілізаваныя з савецкай арміі, а навет працаўнікі мастацтва.

Гэтым разам у «звароце» ня прыхоўваюцца тыя цяжкасьці, якія чакаюць новых перасяленцаў, дзе «маладыя прыяцелі ня будуць мець такіх жыцьцёвых умоваў, да якіх яны прывыклі ў вялікіх гарадох». Таму партыйныя, савецкія, камсамольскія й прафсаюзныя арганізацыі павінны добра абдумаць агульныя звароты, каб выслаць туды людзей «цьвёрдай волі, стойкіх, сільных духам, нязломных перад цяжкасьцямі і гатовых іх перамагчы». Крэмлёўскія верхаводы «спадзяюцца», што моладзь прыйме сваю працу на новых тэрыторыях, як «сур'ёзнае даручэньне партыі і ураду, як пачотны доўг перад радзімай і паедуць туды не як госьці або сэзоньнікі, але як запраўдныя гаспадары, наважаныя ў корані ператварыць гэтыя багатыя краі».

Заходняя прэса паведаміла, што камсамол ужо выдаў загад да моладзі, зь якога нядвузначна відаць, што гэтым разам нельга будзе ўжо выкруціцца ад гэтай новай высылкі. Кажная рэспубліка або ейная частка будуць забавязаныя выслаць у вызначаныя цэнтры адпаведную колькасьць маладых работнікаў. Прыкладам, камсамол Масквы высылае 20 тысяч сваіх сяброў на мэталюргічныя заводы ў Карагандзе.

У сувязі з гэтым прэса зьвярнула ўвагу на ўзнагароду цяперашняга шэфа МВД Дударава ордэнам Леніна за «асаблівыя заслугі». Дудараў заняў месца Круглова толькі 1 лютага сёлета. Такое высокае адзначэньне і за такі кароткі час навет у савецкіх умовах ёсьць вельмі хуткім. Значыцца, Дудараў на гэтую ўзнагароду поўнасьцю заслужыў. Да новых «перасяленскіх» заданьняў ён напэўна добра падрыхтаваны, калі ад упадку Маленкава й да назначэньня яго міністрам нутраных справаў кіраваў аддзелам будаўніцтва пры ЦК КПСС і калі разам з Хрушчовам рабіў паездкі па Казахстане й Сярэдняй Азіі, каб там навочна пераканацца аб «патрэбах» гэтых тэрыторыяў.

Трэба думаць, што колькасьць поўмільёна маладых хлапцоў і дзяўчат, якія маюць быць назаўсёды выселеныя з

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

## Чакайце, мы вернемся!

Беларускае выданьне міхайлаўскае газэткі «За вяртаньне на радзіму» звычайна падыходзіць пазьней. Дзеля таго мы кінем сяньня вокам на Нр. 19/35/ расейскага выданьня. Тымболыш, што паасобныя выданьні зьяўляюцца толькі даслоўным перакладам расейскага выданьня. Зацікавіў нас гэты нумар тым, што ў ім дзьве сярэднія бачынкі прысьвечаныя выключна Беларусі. Побач «гэрбу БССР» тут на цэлую бачыну бачым загаловак «Ждем вас в родной Белоруссии».

Так, грамадзянін Міхайлаў, чакайце й мы вернемся. Каб вы навет гэтага й не жадалі. А тымчасам хочам паставіць колькі пытаньняў, на якія вы, бязумоўна, ня знойдзеце адказу.

«... У калгасах рэспублікі пашыраюцца палявыя працы, адпушчаны дадатковыя плошчы пад цукровыя буракі й кукурузу ...» — старую песьню на старую мэлёдыю вядуць КГБ-аўскія пісакі. Пытаемся: а колькі-ж тысяч гэктараў сенажацяў Беларусі пакрылася хмызьнякамі, забалоцілася ды сталася няпрыгоднымі? Гэта не якая-небудзь выдумка — пішуць аб гэтым усе савецкія газэты ў БССР. Хто віноўнік гэтага стану? Ясна, што не беларускі калгасьнік, а толькі самая калгасная сыстэма.

«... Калектыў трактарнага заводу выпусьціў звыш пляну дзесяткі калёсных трактараў «Беларусь» ...» — прадаўжаюць міхайлаўцы. Нічога новага! Але-ж ізноў тая самая савецкая прэса скардзіцца на недастатковае абслугоўваньне калгасаў МТС-амі. Чаму? Можа Міхайлаў ня ведае куды дзяюцца трактары выпрадукаваныя на Беларусі? Хай пабачыць здымкі й рэпартажы ў савецкіх газэтах, дзе паказваецца, як трактары з БССР накіроўваюцца на цальнягі Казахстану й наагул на г. зв. «камуністычныя стройкі». Ясна, ён гэта ведае, але сказаць ня мае права. Беларускага-ж эміґранта ён пацяшае тым, што ўсё-ж трактары прадукуюцца...

Далей пад загалоўкам «Шырокае жыльлёвае будаўніцтва» паведамляецца, што за бягучую пяцігодку ў БССР будзе здадзена ў эксплятатацыю два мілёны квадратных мэтраў жыльлёвае плошчы за кошт дзяржаўнага капіталу й адзін мілён — па лініі індывідуальнага будаўніцтва, значыць у суме тры мілёны квадратных мэтраў.

Даўно ўжо вядома, што савецкія пляны найчасьцей выконваюцца толькі на паперы. Але дапусьцім на момант, што гэтым разам нейкім цудам за пяцігодку ўдасца пабудаваць гэтых тры мільёны квадратных мэтраў жыльлёвае плошчы. І папытаемся: ці-ж гэта ўжо аж так шмат? Вось-жа калі мы закруглім лік насельніцтва сучаснае БССР да дзесяці мільёнаў ды возьмем на ўвагу гадавы натуральны прырост яго, г. зн. 1,7%, дык за пяць гадоў насельніцтва Беларусі пабольшыцца штонайменш на 850 тысяч. Паводля-ж савецкага пляну на адну асобу належыцца 9 квадратных мэтраў жыльлёвай плошчы. Значыць на самы толькі натуральны прырост патрэбна сем мілёнаў шэсьцьсот пяцьдзесят квадратных мэтраў. І што-ж мы бачым? Выходзіць, што гэты славуты бальшавіцкі трохмілёнаны плян зможа забясьпечыць жыльлёвай плошчай толькі менш чым палову насельніцтва з натуральнага прыросту. Дык дзе-ж мае жыць рэшта? А нельга-ж забывацца, што ўжо сяньня, бяз гэтага прыросту, адчуваецца вялікая нястача памешканьняў. Такім чынам, навет пры выкананьні пляну жыхар Беларусі не атрымае належных 9 кв. мэтраў жыльлёвай плошчы й будзе змушаны далей жыць у цеснаце й нявыгадзе.

Гэты прыклад з жыльлёвым будаўніцтвам не зьяўляецца нечым вынятковым у савецкай рэчаіснасьці. Якую-б галіну гаспадаркі ці будаўніцтва мы-б не ўзялі, усюды наткнемся на гэтакія астранамічныя лікі. Усюды мілёны й мілёны. Бальшавіком здаецца, што імі яны змогуць зачараваць, як свайго грамадзяніна, гэтак і замежжа. Дарэмна! Хопіць бліжэй прыглядзіцца да гэтых лікаў, і іхны чар зьнікае, як мыльны пузыр, а застаецца толькі горкая праўда, падобна як у выпадку з жыльлёвым будаўніцтвам. Розныя-ж міхайлаўскія лістоўкі гэтае праўды не закрыюць.

«Хараша ты, родная Беларусь! Ураджайныя палі трае, багатыя пладамі сады. А якія магутныя лясы шумяць, хаваючы ў сваёй засені срэбныя струмені паўнаводных рэкаў! І гаспадар усяго гэтага багацьця — просты чалавек» — у лірычны тон упадаюць агенты МГБ.

Знаем мы харастве й багацьце Беларусі, прыгаство ейных палёў садоў і лясоў. Але таксама ведаем, **хто** сяньня зьяўляецца там адзіным і непадзельным гаспадаром, як ведае гэта й сам Міхайлаў. «Просты-ж чалавек» ня толькі не зьяўляецца там гаспадаром беларускіх багацьцяў, але й сам ён — собсcасьць ды нявольнік партыі й ураду. **Што** й **хто** змушае сяньня гэтага «гаспадара» пакідаць свае ўраджайныя палі ды ехаць на дзікія цальнягі Казахстану, на сібірскія «стройкі камунізму»? **Што** й **хто** зь селяніна зрабіў паднявольнага пралетара, які на ўраджайных палёх пралівае пот за жабрацкія працадні? **Што** й **хто** з работніка зрабіў робата прыкаванага да свайго станка?

На гэтыя пытаньні Міхайлаў не адкажа, бо ён сам зьяўляецца адным з прыганятых у гэтай імпэрыі нявольніцтва.

На Беларусь-жа мы вернемся! Міхайлаву няма патрэбы заклікаць нас да гэтага. Толькі калі прыйдзе час павароту, дык прыганятым ня стане там больш месца. І гаспадаром беларускіх багацьцяў запраўды будзе просты чалавек.

**А. Галубіцкі**

## Трагэдыя Беларусаў

Перад Першай Сусьветнай вайной найлепшыя землі на Беларусі належалі да магнатаў-абшарнікаў і нашае сялянства адчувала вялікі недахоп зямлі. Да гэтага наша прамысловасьць была вельмі слаба разьвітая і не забірала надвыжкі сілы зь вёскі. Гэта ўсё змушала Беларусаў эміграваць і шукаць працы замежамі. Яны рабілі гэта вельмі неахвотна, бо ведаем, што Беларусу ня лёгка разьвітвацца з родным краем і кутом. Пераважна беларускі эміґрант, заашчадзіўшы грошы, вяртаўся дамоў. Туга па родным краі не давала яму асыміляваца ў чужым асяродзьдзі.

Калі-ж у выніку перавароту ў 1917 годзе, зямля абшарнікаў, як кажуць бальшавікі, перайшла да сялянаў, калі пачала разьвівацца прамысловасьць, зьнікла патрэба эміграцыі зь Беларусі. Кожнаму Беларусу хапіла-б зямлі, працы і хлеба ў сваёй краіне.

Аднак так ня ёсьць. Калі да 17-га году матар'яльныя абставіны змушалі Беларусаў эміграваць пераважна на Захад, дык цяпер жорсткая сыстэма бальшавіцкай дыктатуры гоніць іх у адваротным кірунку — на Ўсход і Поўнач. Ужо не гаворачы аб арыштах, высылках і дэпартацыях рознага гэтак званага «сацыяльна небясьпечнага элемэнту», а ў запраўднасьці — беларускіх патрыётаў — розныя бескарысныя народу «сацыялістычныя» ды «сталінскія будоўлі і новабудоўлі» ды іншыя бязглуздыя ідэі крамлёўскіх сатрапаў, выгналі зь Беларусі мільёны людзей. Напрыклад, асваеньне цаліны — акцыя, якая амаль што праваліласа, каштавала Беларусі шмат тысяч моладзі, якая ў прымусова-дабраахвотным парадку была загнанай у казахстанскія і алтайскія пустыры, дзе іх, як цынічна жартаваў Хрушчоў «марозцам падбадзёрыла». Шмат Беларусаў таксама «дабраахвотна» мусіла паехаць у тайгі Карэліі. 19-га травеня ЦК КПСС і савецкі ўрад зьвярнуліся з заклікам да камсамольскіх арганізацыяў аб зглошваньні на выезд ў паўночныя і ўсходнія раёны Савецкага Саюзу. У гэтым звароце грозна гучыць сказ, што камсамольскія арганізацыі мусяць «быдзяліць з сваей грамады 400—500 тысяч маладых хлапцоў і дзяўчат». Гэты сказ дэмаскуе ўсю камэдыю «дабраахвотнасьці».

І вось, як бачым, на Беларусі разгарнулася інтэнсыўная вэрбоўка моладзі. 24-га травеня менскае радыё паведаміла «Сотні маладых патрыётаў Менску на заклік партыі і ўраду выказалі жаданьне працаваць на новабудоўлях Поўначы і Далёкага Ўсходу». А якаясь Галіна Банішэўская сказала ў мікрафон: «Заклік ЦК КПСС і роднага ўраду захапіў сэрцы моладзі ...»

Доўга менскія прапагандыстыя будуць шукаць наіўных, якія паверацць гэтым мэлядэклямацыям. Ведаем, як моцна любяць Беларусы свой край і сваю зямлю. Таму калі едуць ў далёкі суровы Сібір ці за палярнае кола — напэўна ня зь мёду, а яшчэ менш — з «савецкага патрыятызму». Перадусім няма сумлеву, што партыйныя арганізацыі **вызначаюць** «дабраахвотнікаў» і маюць усе магчымасьці ды сяродкі прымусіць да «дабраахвотнасьці», а, падругое, прыгонная калгасная сыстэма, так чужая беларускай псыхіцы, не дае ніякіх надзеяў на лепшую будучыню маладых людзей. Беларус, хаця й не багаты, але заўсёды хацеў пачувацца свабодным і валадаром сваёй долі. Усё гэта зьнішчыла бальшавіцкая нялюдзкая ўлада. Таму ня дзіва, што пры вялікім працэнце прымусовых «дабраахвотнікаў», можа знойдзецца й малая частка людзей, якія спакусяцца на большыя заработкі, ці магчымасьць кар'еры...

Мы можам быць пэўнымі, што іх сустрэне прыкрае рашчараваньне. А перадусім, ужо зь першага дня іх чакаюць цяжкія матар'яльныя і кліматычныя ўмовы. Навет газэта «Известия» 25-га травеня прызналася: «Бальшыня маладых хлапцоў і дзяўчат прыехала з паўдня і першая зіма была ім нялёгкай...» Ведаем, што дыктатура заганяе людзей у дзікія пустыры, але яна ніколі ня турбуецца аб забясьпячэньні іхнага жыцьця.

Для нас гэта прымусовая «эміграцыя» ёсьць вялікай нацыянальнай трагедыяй, бо аднэй з мэтаў Крамля зьяўляецца аслабленьне нашага патэнцыялу.

Аднак мы верым у адпорнасьць Беларусаў, што яны навет у гэных цяжкіх умовах і чужым асяродзьдзі не страцяць ані свае любасьці да роднай краіны й культуры, ані свае нацыянальнай вытрываласьці.

Мы верым, што прыйдзе час, калі яны вернуцца на Бацькаўшчыну і стануцца гаспадарамі свае ўласнай долі на родных землях!

## Бальшавіцкая «дэцэнтралізацыя»

3-га чэрвеня маскоўскае радыё й цэнтральныя савецкія газэты падалі да ведама пастанову ЦК КПСС й Савету Міністраў СССР «Аб разьвязаньні Міністэрства юстыцыі СССР», а таксама «Аб пераданьні прадпрыемстваў шэрагу галін народнае гаспадаркі ў распараджэньне саюзных рэспублік». Зроблена гэта, як гаворыцца ў паведамленьні, «з мэтай ліквідаваньня лішняе цэнтралізацыі» ды «ўзмацненьня ролі саюзных рэспублік».

Бальшавікі шмат гавораць аб сувэрэннасьці Беларускае савецкае рэспублікі. Яны ўсімі сіламі намагаюцца давесьці нашаму народу й вольнаму сьвету, што Беларусь — гэта незалежная дзяржава, якая мае ўсе магчымасьці самастойна ўладжваць сваё нацыянальнае жыцьцё. Доказам гэтага мае быцам служыць канстытуцыя БССР і канстытуцыя Савецкага Саюзу. У гэтай апошняй, прыкладам, у пункце 17-м гаворыцца, што «за кажнай саюзнай рэспублікай захоўваецца права свабоднага выхаду з СССР»; у наступным пункце цьвердзіцца, што «тэрыторыя саюзных рэспублік ня можа быць зьменена бязь іхнае згоды», і далей: «кажная саюзная рэспубліка мае права ўваходзіць у беспасрэдныя сувязі з замежнымі дзяржавамі, падпісваць зь імі ўмовы ды абменьвацца дыпляматычнымі й консульскімі прадстаўнікамі». Усё гэтае канстытуцкае пустаслоўе, ужо зусім нядаўна, у савецкай Беларусі было падмацавана яшчэ асобным дзяржаўным сьцягам, а крышку пазьней — навет гімнам. Гэтыя хвальшывыя атрыбуты беларускае савецкае дзяржаўнасьці бальшавіцкая прапаганда выкарыстоўвае штодзённа, каб даводзіць паняволенаму народу аб ягонай нацыянальнай незалежнасьці, свабодзе й праве самому распараджацца сваім лёсам. Гэтай-жа мэце мае служыць і апошні трык ЦК КПСС аб так званай «дэцэнтралізацыі» й «узмацненьні ролі саюзных рэспублік».

Але гляньма цяпер на другі бок бальшавіцкае мэдалі, і мы пераканаемся ў камплетным хвальшы ўсяе гэтае дзяржаўна-незалежніцкае бутафорыі — на аснове цьвярджаньняў саміх-жа бальшавікоў.

Вось-жа на нядаўна праведзеным XXII-ім зьезьдзе камуністычнае партыі Беларусі, у выступленьні сакратара Гарадзенскага абкому КПБ, нейкага Баранава, знайшлася, між іншага, такая шчырая й праўдзівая фраза (цытуем за «Зьвяздой» з 28 студзеня сёлета):

«Усім вядомая роля **сакратара райкому партыі. Гэта кіруючая фігура, ад дзейнасьці якое перш за ўсё залежыць посьпех у вырашэньні любога пытаньня ў раёне».** Хіба-ж яшчэ лепш усім вядома, што ня толькі Беларуская ССР, а ўвесь Савецкі Саюз складаецца з раёнаў, на чале якіх чуйна стаяць «кіруючыя партыйныя фігуры». Цяпер-жа гляньма, у чыіх руках — афіцыяльна й фактычна — знаходзяцца лейцы ад усіх гэтых «кіруючых фігураў».

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# 30-я угодкі заснаваньня «Узвышша»

(Юбілейная даведка)

Сёлетні год з поўным правам можа быць названы ў нас юбілейным узвышэнскім годам: на яго бо прыпалі дзьве круглыя ўгодкавыя даты, зьвязаныя з «Узвышшам» — 30-я ўгодкі ягонага заснаваньня (у 1926 г.) і 25-я ліквідацыі (у 1931 г.). Гэтаю даведкаю маецца на ўвеце асьвятліць толькі першую дату, з тым, што ў далейшым цягу юбілейнага году асьветліцца наступова ўся гісторыя слаўнага беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня аж да ягонае гвалтоўнае ліквідацыі ўлучна.

Заснаваньне «Узвышша» становіць сабою адзін з выдатнейшых, калі не найвыдатнейшы мамэнт нашага нацыянальнага разьвіцьця пары пасьля здушэньня нацыянальнае рэвалюцыі 1917—1920 г. г. Калі пастаўленае гэтаю рэвалюцыяй на кон тварэньне нашае нацыі, як незалежнае палітычнае адзінкі, як нацыі палітычнае, на тэрыторыі падзеленага заміранымі рыскімі акупантамі краю сталася больш немагчымым, дык нацыянальнае разьвіцьцё прыродна мусіла зьвярнуцца на той біты шлях, якім ішло яно перад нацыянальнаю рэвалюцыяй, на шлях тварэньня нацыі культуры, літаратурнае нацыі першым чынам, балазе шлях гэты ня быў зачынены, а на тэрыторыі савецкае Беларусі знайшоў быў нат спрыяльныя абставіны і, здавалася, пэрспэктывы. У працэсе гэтага звароту, увосень 1923 г. паўстае першая беларуская літаратурна-мастацкая арганізацыя «Маладняк» зь беспрэцэдэнтавым лікам сяброў — ад 500 да 1 000 — прыцягнутых сюды ня гэтулькі імпэтам да літаратурнае творчасьці як такога, колькі ўцягнутых тым гістарычна абумоўленым працэсам тварэньня літаратурнае нацыі ў вабставінах немагчымасьці адпаведнага й свабоднага, незалежнага будаваньня нацыі палітычнае.

Аднак ад пачатку «Маладняк» толькі невялікая частка ягоных сяброў начале з У. Дубоўкам, Я. Пушчам, а з часам і А. Бабарэкам, мела поўнае й глыбокае ўсьведамленьне гэтае гістарычнае задачы. Афіцыйнае-ж кіраўніцтва арганізацыі начале з М. Чаротам, цягнучы за сабою шэраговую бальшыню, усё больш паддавалася ціску камуністычнае партыі, што намагалася паставіць «Маладняк» на службу актуальна-надзённым для яе задачам «палітпрасьвету» — масавае палітычнае прапаганды ў бальшавіцкім духу. Гэтая лінія не магла ня выклікаць апазыцыі сьведамае гістарычных задачаў часткі «Маладняка» з далейшай кансалідацыяй яе й зараджэньнем тэндэнцыі да апрычэньня ў самастойную арганізацыйную адзінку дзеля больш эфэктыўнага выкананьня гэных усьведамленых гістарычных задачаў.

Выявы ўсяго гэтага асабліва ўзмацніліся з выхадам улетку 1925 г. зборніка вершаў У. Дубоўкі «Трысьцё» й пасьлейшым зьяўленьнем пашыранае рэцэнзіі на яго А. Бабарэкі пад загалоўкам «З далінаў на ўзвышшы». Па даўгой а ўпорыстай працы гуртаваньня аднадумцаў, ініцыятыўная дзесятка апазыцыйных «маладнякоўцаў», спаткаўшыся 25 сакавіка 1926 г. пры сяброўскім нелегальным адзначэньні гэтае гістарычнае сакавіковае даты на гасподзе аднаго зь іх, пастанавіла старацца аб выхадзе з «Маладняка» й заснаваньні новае літаратурнае арганізацыі, тутжа ахрышчанай «Узвышшам», паводля аднаго з вобразаў з уступнага вершу да Дубоўкавага «Трысьця» ў інтэрпрэтацыі рэцэнзіі А. Бабарэкі (гл. гэты верш — «Ня дзівіся» — на іншым месцы ў сяньняшнім нумары). 27 сакавіка была складзеная й пададзеная заява аб дазволе на гэта да найвышэйшае інстанцыі бальшавіцкіх акупацыйных уладаў на Беларусі — ЦК КП/б/Б, з дадаткам да выясьняльных «Тэзісаў да пытаньня аб утварэньні «Узвышша», апрацаваных А. Бабарэкам і апрабаваных усімі іншымі ініцыятарамі. Гэты мамэнт першага афармаваньня новае арганізацыі знайшоў сваё адлюстраваньне ў напісаным таго-ж дня вершы Я. Пушчы — «Высіцца, высіцца арка» (гл. на іншым месцы ў сяньняшнім нумары).

Толькі 26 траўня прыйшоў дазвол усемагутнага ЦК на выхад з «Маладняка» й заснаваньне «Узвышша», сярод закладнікаў якога ня было аніводнага партыйца. Гэты мамэнт, успрыняты закладнікамі як мамэнт іхнае перамогі над акупантам, знайшоў сваё адлюстраваньне ў напісаным таго-ж дня вершы Я. Пушчы — «Затрасьліся ў лесе асіны» (гл. на іншым месцы ў сяньняшнім нумары). Дзень 26 траўня, як такі дзень перамогі, быў прыняты «Узвышшам» за дату ягонага заснаваньня, адзначаную штогодным сьвятам з урачыстым сходам і адзіным на год прыймом новых сяброў.

І па дазволеным заснаваньні «Узвышша», з афіцыйнага й неафіцыйнага боку ўсьцяж чыніліся ўсьлякія перашкоды ягонай нармальнай дзейнасьці. Нат «паправленыя» ЦК «Тэзісы» не давалі друкаваць аж да 1927 г., калі згуртаваньню ўдалося з паўпрыватных крыніцаў здабыць грошы на выданьне собскага часапісу, які й выходзіў аж да ліквідацыі ў 1931 г. Найважнейшыя мясьціны з гэтых «Тэзісаў», што высьвятляюць як найлепш аблічча «Узвышша», друкуюцца тут на іншым месцы.

Усё існаваньне «Узвышша» па ягоным заснаваньні поўнае яскравых эпізодаў змаганьня з афіцыйнай бальшавіцкай лініяй, што, аднак, ужо выходзіць за межы дадзенае даведкі. Атакаванае й атакуючае бязупынна, згуртаваньне ўсьцяж расло якасна й нат колькасна. У мамэнце свайго найбольшага разросту, у 1929 г., мела яно ўжо 16 сяброў, зь іх — 7 паэтаў-лірыкаў (У. Дубоўка, Я. Пушча, У. Жылка, П. Глебка, М. Лужанін, С. Дарожны, Т. Кляшторны), 3 бэлетрыстых (З. Бядуля, К. Чорны, Л. Калюга), 2 сатырыкаў (К. Крапіва, А. Мрый), 1 драматурга (В. Шашалевіч), і 3 крытыкаў (А. Бабарэка, Ант. Адамовіч, Ф. Купцэвіч).

Надыход славутага «змаганьня зь беларускім нацыянал - дэмакратызмам» спыніў гэты рост, у 1930 г. уварваў за краты каля палавіны, бо аж 7 узвышэнцаў (У. Дубоўку, Я. Пушчу, У. Жылку, А. Бабарэку, Ант. Адамовіча,Ф. Купцэвіча, В. Шашалевіча). Пасьля гэтага, наколькі ведама, адважыўся далучыцца новым сябрам да грамленага ўжо згуртаваньня адзін толькі Ю. Віцьбіч. У канцы 1931 г. была праведзеная «самаліквідацыя» згуртаваньня. Пасьля стратаў у выніку далейшых рэпрэсіяў і сьмерцяў, у сучаснай савецкай беларускай літаратуры засталося ўсяго 3 калішніх узвышэнцаў: К. Крапіва, П. Глебка, М. Лужанін.

А.




**Беларуская аркестра «Палесьсе»**
**Зьлева направа: Янка Шыкалюк — гітара, Кастусь Калоша — скрыпка, Аляксандар Літвінка — барабан, Валодзя Літвінка — акардыён. Міхась Яраховіч — акардыён.**

# З „тэзісаў да пытаньня аб утварэньні „Узвышша“

... З аднаго боку — факт бурапеннай і самагоннай творчасьці службовай, казённай радасьці выяўляе сабою ў літаратурным руху тэндэнцыю адмаўленства. Гэтая плынь выражае зданьне аб непатрэбнасьці для народу апанаваньня культурнымі каштоўнасьцямі спадчыны і ўтварэньня свайго мастацтва, даючы ўзамен гэтага **літаратурныя прысмакі,** забелку або прыстрахі з мэтай вырашэньня надзённых асабістых задач і задавальненьня сваіх асабовых (паэты ці пісьменьніка) інтарэсаў.

З другога боку — факт творчасьці, якая імкнецца... да стварэньня культурна-мастацкіх каштоўнасьцяў на падставе апанаваньня народнае творчасьці, дасягненьняў мастацтва мінулага й канкрэтнага вывучэньня сучаснасьці, выяўляе сабою тэндэнцыю ажыўленства. Гэтая плынь, што выявілася ў арганізаваньні згуртаваньня «Узвышша», выражае думку аб тым, што беларускаму пралетарыяту й сялянству патрэбна мастацтва ня менш, як якой-бы там ні было буржуазіі...

Яно па сваёй культуры й глыбіні адбітку жыцьця павінна стаць вышэй мастацтва як буржуазнага, так і сучаснага, якое часта выдае сябе за пралетарскае... Яно павінна стаць адным з тых фактаў агульнай беларускай творчасьці, які скажа ўсяму сьвету, што могуць утварыць работнікі й сяляне калісь прыгнечанае нацыі, які скажа, што работнікі й сяляне гэтай нацыі маюць багатую фармальную культуру, якая з культурамі іншых, раней прыгнечаных нацый, ідзе на зьмену «закатам» розных «вялікіх Эўропаў». Мастацтва павінна быць узвышшам.

... Беларусі, як крыніцы творчасьці новых формаў культуры, яшчэ ня ведаюць, а таму трэба гэтак сказаць і гэтакае выявіць (дзеля гэтага **трэба шмат ведаць і ўмець памастацку выражаць**), каб увесь сьвет пачуў, што жыве Беларусь... Але гэта трэба казаць ня словамі, а фактамі стварэньня мастацкіх і культурных каштоўнасьцяў... Ня оды й гімны складаць пра ўзвышша, тварыць узвышша ўласнымі сіламі — вось тая сьвядомасьць, што... й выклікае да жыцьця «Узвышша».

Магчымасьць утварэньня ўзвышша беларускай мастацкай літаратуры мысьліцца цераз:

а) культуру беларускае мовы,
б) жыцьцёвую сымболіку мастацкага твору,
в) яго канцэнтрацыйную вобразнасьць,
г) дынамічнасьць кампазыцыі,
д) беларускую жанравасьць,
е) адзінства творча-мастацкае ідэі,
ж) разнастайнасьць фармальных рэальнасьцяў і
з) аквітызм, як тую імклівасьць, якою прасякаецца мастацкі твор у сваім ідэале й праз гэта ажыўляе патрачаную — на змаганьне з прыгнётам пануючых клясаў і нацыяў, — энэргію працоўнага люду на творчасьць вялікага й прыгожага жыцьця.

«Узвышша» беларускае мастацкае літаратуры творыцца ня колькасьцю паэтаў і пісьменьнікаў, якія-б асьмеліліся абвясьціць сябе каманднымі высотамі, а якасьцю тэй літаратурна-мастацкай прадукцыі, якая прыносіцца ў скарбніцу беларускай мастацкай літаратуры з глыбіні сучаснасьці, узброенай ведамі, воляю, шчырым жаданьнем і энтузіязмам вялікае творчасьці. Толькі там утворыцца тое ўзвышша беларускае літаратуры, якое ўгледзяць вякі й народы.

26 мая 1926 г.

**ЯЗЭП ПУШЧА**

* * *

**Высіцца, высіцца арка...**
**Ветры прыпалі к зямлі.**
**Сонца вясновае яркне,**
**Песьні ў палёх расьцьвілі.**

**Выбег дзень спуджаным лосем, —**
**белыя кудлы трасе.**
**Лозы ля рэк не галосяць..**
**Песьні цудоўнай красе!**

**Вусны вясны васільковай**
**сонечны солад нясуць.**
**Дух мой сягоньня ня скован,**
**дух мой сьцюдзёніць расу.**

**Будзе і радасьць, і шчасьце, —**
**вырастуць кветкі красы.**
**Ветры ня будуць іх шастаць,**
**ветры — напевы вясны.**

**Сьніцца мне з зорамі вырыс...**
**Песьняў ня хочу другіх;**
**зь імі ў дуброве я вырас, —**
**буйства для іх дарагіх.**

**Гром з навальніцай як хлыне, —**
**сьхіляцца ніцам усе.**
**Зелень вясновае плыні**
**радасьць з вачэй маіх сьсе.**

**27. III. 26 г.**

* * *

**Затрасьліся у лесе асіны —**
**сіроты, як-бы безь сям'і...**
**Нехта вусны дасіня насініў**
**і раны цалуе зямлі.**

**Нехта локці ў шаленьсьцьве кусае**
**і цела грызе на кускі.**
**Не сьпяваюць яму больш: —**
**Осанна! —**
**сьлед яго замятаюць пяскі.**

**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

Нада мною вісела жоўтая бязносая галава і, нешта гаворачы, моцна ціснула рукамі на плячукі.

— Вучы, Гулівэр Бязносы, новую птушку, — пачуўся аднекуль няпрыемны хрыплы голас.

Кінуты жартам, а можа, ліха яго там ведае, і ўсур'ёз сказанае языком гаваркога, — у душу-ж чалавеку, разумеецца, калі-б і хацеў, ня ўлезеш, — яшчэ больш падстрэнчыла Бязносага ды харобрасьці наддало помыслу ягонаму. Асунуўшыся, ўніз, ашчаперыў, як той рак пад'едзеную сіляўку пры беразе, жылістымі рукамі маю паясьніцу, падняў і, прыгінаючы доўгім тулавам доўгавалосага маладзюка, паставіў на гладкае лапікла мураванае падлогі — на самым відавоку арыштанцкай.

«Экспэрымэнт» быў гэтакім неспадзяваным і спрытным, што не знайшлося й часу працівіцца яму. Ды праўду кажучы, раптоўнае перамесьціва ня было ўжо надта й благім — прыемным навет... Якім быў, такім і застаўся, — ні слова, ні паўслова майго не пачулі, што зубы скеліць меліся. Неацанёнае-ж розьніва вычулася адразу: ні смуродлівага табе пад носам баняка, ні тых мокрых лапатак з лапцяватымі сінякамі, дый самога паветра, няхай сабе й ня менш смуродлівага, — горка-кіслага, — але нейкага радзейшага, болей было. Наагул-жа, што ўсярэдзіне, то ня ззаду: адтуль, каб і паўмесяца стаяў, таўкучыся, дык зь людзьмі не запазнаўся-б; у сяродку, дык і ты, як тая грыўня на далоні, відзён усім, і сам усё чысьценька бачыш...

Гулівэр Бязносы, аднак, зрабіў гэтую «апэрацыю» не дзеля мае выгады (пазьней ён і сам прызнаўся, выскаляючыся), а дзеля сябе самога, каб пад тую забаўку й самому высунуцца хоць на тры тулавы наперад. От што найбольш карцела яму.

Я-ж, нічога гэтага не разумеючы, і думаць ня думаючы пра нейкую там благіню ўчыненага — «заўтра разгледжуся», думалася, — зьняў паліто і пачаў было масьціцца на тым з добрую шапку лапікле, як раптам, быццам із самага дна кадушкі, загугнявіла:

— Чырвонцамі, прынц, месца вашывае купляецца...

Каля мяне стаяў, не раўнуючы, як той дубовы пень, малады жоўтавалосы чалавек. Убачыўшы гэта ў ягонай руцэ свой пулярэс, зрабілася вельмі крыўдна, і я ня сьцерпеў (камень-жа й той лопаецца), — сказаў, гледзячы ў самыя вочы жоўтавалосаму дубоваму камлю, вельмі сьмела:

— Гэтага табе мала, зладзюга?

А ён, шэльма, і вокам ня міргнуў; выставіў руку й кажа:

— А ну, паўсоценкі на буру з носа, прынц!..

— І за навасельле пяцёрку, — захрыпеў Гулівэр Бязносы...

Успомніўшы, што ўсе грошы выграб з пулярэсу вузкавокі камандант, і, унікаючы большых прыкрасьцяў, давялося йсьці на хітрыкі:

— Мне паўсотню, а твая — рэшта, жаўцюга... Згода? І гэтаму разумніку не пашкадуй чырвонца. За гэтае-ж «тваё» вашапруднае месца заплацім, спадзяюся, разам, — і я, і ты... Твой Гулівэр, зірні на яго, заплаціў носам, і калі будзе такім разумнікам, заплаціць яшчэ чым-небудзь...

— Талкова, прынц... — выціснуў жоўтавалосы і паказаў Гулівэру пальцам на парог, — туды, адкуль ён выпхнуўся.

Чым-бы яно скончылася гэтае «хрышчэньне», — ня ведаю. Першая сустрэча з «гаспадарамі» мокрага камянога мяшка № 3 абарвалася звонам ключоў і — «с вещамі»...

Пайшоў і Гулівэр, і жоўтавалосы дубовы камель, а зь імі — украдзены зь кішэні пулярэс, — бяз грошай...

**І росы, і лотаць...**

Сон згінаў галаву. Ногі ня трымалі цела. Нічога й нікога ня бачачы, падуладны сіле ўласнае вагі, пасунуўся наніз, каб сесьці на скамечанае пад нагамі паліто. Цела ня ўтрымала раўнавагі, — пасьлізнуўся, апёрся рукамі на халодную цымэнтовую падлогу і лёг на маленькім някупленым кавалачку турэмнае плошчы № 3...

*

Празь няшчыльна прыплюшчаныя павекі вачэй сачылася электрычнае сьвятло; яно цямнела, шарэла, потым рабілася зырчэйшым, рассыпалася жывым срэбрам, варушылася, як жывое, а пазьней пачало ператварацца ў сіня-жоўтыя кругі; яны шырыліся, прыліпалі да твару і рабіліся мяккімі, цяплюткімі...

...Якая цудоўная раніца каля Пцічы! Сонца яшчэ няма, але вялізарнае сьветла-ружовае паўкола падымалася ўсё вышэй і вышэй... Вось першыя праменьчыкі прыпалі да дробных, танюткіх карункаў вельмі сінюткіх хмурынак і доўга-доўга цалаваліся зь імі...

На густым мурагу аселіцы загарэліся росы...

І цудоўныя, сінюткія матылькі...

Росы буйнеюць, буйнеюць, набліжаюцца да матылькоў, і ўсе разам коцяцца сустракаць сонца...

Я шпурляю шапку на рачны пясок, расшпыляю кашулю ды імчуся, разьвёўшы рукі, за росамі й матылькамі... Я лаўлю росы, я бяру іх рукамі, каб напіцца, каб умыцца... Росы робяцца драбнюткімі, рассыпаюцца і зьнікаюць...

Замест сінюткіх матылькоў разгарнулася густая купчастая лотаць...

Вось і маці... Сьцелючы палотны, пытаецца:

— А чаго-ж ты гэтак рана вышаў, сынку?...

Бягу да рэчкі. Паплаўка шукаю — ня відно. Цягну, а рыбіна хвастом за ваду чапляецца... От ужо й над вадою паўтулава шчупаковага выгнулася, а хвост сіняваты яшчэ болей выгнуўся, і рыбіна-шчупак пад бераг круты падрэзаўшыся сіганула...

Стаю і росаў вачыма шукаю, а маці, нясучы палотны мачыць, кажа:

Позна, сынку, — за хвост рыбка ня ловіцца...

Топяцца ногі ў пяску рачным, а я шапкі шукаю... Маці палошча палотны ў Пцічы ды кажа мне, упікаючы:

— За дурной галавой, сынку, і нагам небалазе...

Сорамна мне, і я лотаць тую таптаць пачынаю... А маці, выбіваючы пранікам палотны, вачэй ня зводзіць і кажа, галавой ківаючы:

— Ня шукай бяды, сынку, сама бяда знойдзе цябе... Бачыш, як Пціч наша пасінела?...

А нехта ўголас мяне гукае...

Шмат людзей, і ўсе да лотаці бегчы хочуць, — каб патаптаць тыя кветкі жоўтыя, балацяныя — сьлепату курыную...

*

— Нідзе не стае чалавеку месца таго: ні там, ні тут... Гіне чалавек ні за нюх табакі, а за пядзю камяную грызьціся будзе; а калі ўжо дзьве пядзі выгрызе, дык ужо й рыштант на галаву рыштанту садзіцца... І грызуцца людзі...

Сэнсу гэтае гутаркі не зразумеў адразу, — таго, што гаварыў, ня бачыў. Электрычнага сьвятла ўжо ня было. Праз замерзлыя краты вакенцаў урывалася сьвежае марознае паветра. Ападаючы наніз, яно падымала кісьлю камянога мяшка і засланяла, быццам густым туманам, ягоных асельнікаў... Да мяне наблізіўся крываногі старэнькі і ціхутка-ціхутка прамовіў:

— Надта-ж цяжка пакутвалі вы на гэтай вашывай лысіне...

**(Далей будзе)**

# Зь беларускага жыцьця

### БЕЛАРУСКАЯ АРКЕСТРА «ПАЛЕСЬСЕ»

Аркестра «Палесьсе» заснавалася ў Кліўлэндзе ў 1955 годзе пад наглядам праф. М. Куліковіча. Яна цяпер налічвае пяць музыкантаў; ейны кіраўнік — Уладзімер Літвінка. Амаль усе ўдзельнікі яе паходзяць з Палесься. За гэты кароткі час аркестра зрабіла вялікі поступ наперад. Ужо цяпер грае вясельлі Беларусам ў Кліўлэндзе, беларускія вечарынкі ды агульныя забавы. Калёнія Беларусаў мае вялікую прыемнасьць павесяліцца ды патанцаваць ў сваім асяродзьдзі й пад сваю аркестру.

С. К.

### У МЮНХЭНСКІМ АДДЗЕЛЕ БІНІМ

24-га траўня гг. адбылася чарговая зборка сяброў аддзелу БІНіМ, на якой быў прысутным Прэзыдэнт БНР інж. М. Абрамчык, што якраз гэтым разам прабываў у Мюнхэне. На зборцы прысутнічаў таксама і новы сябра аддзелу, ведамы наш паэта Дудзіцкі, які зьяўляецца цяпер дырэктарам беларускае сэкцыі радыя «Вызваленьне».

На парадку дня быў рэфэрат д-ра Ст. Станкевіча на тэму: «Купала праўдзівы і схвальшаваны». Рэфэрат выклікаў вельмі жывую дыскусію, у якой узялі ўдзел амаль усе прысутныя. Д-ру Станкевічу была вынесена падзяка за такую шырокую й грунтоўную аналізу Купалавае творчасьці і савецкіх махінацыяў у хвальшаваньні Купалавае спадчыны.

А.

### ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ Ў НОВАЙ ПАЎДЗЁННАЙ ВАЛІІ (АЎСТРАЛІЯ)

20 травеня сёлета адбыўся сёмы чарговы гадавы агульны сход, на якім стары ўрад (старшыня сп. Левановіч) зрабіў справазданьне за мінулы год. Дасюлешняму ўраду быў вынесены абсалюторыюм.

На старшыню новага ўраду быў выбраны сп. К. Сіткоўскі (якому гэты гонар прыпадае ўжо другі раз), а ў урад увайшлі сп. сп. др. Я. Малецкі, М. Бакуновіч, Лужынскі, Курыянчык і сп-ня Сіткоўская.

За мінулы год праца беларускае групы ў Сыднэі значна ўзмоцнілася. Між іншага, пушчана ў продаж шмат кніжак і часапісаў, зроблена тры акадэміі й адзін таварыскі вечар.

На заканчэньне сходу, др Я. Малецкі зрабіў кароткі даклад аб актуальных праблемах дня. Сход адбыўся запраўды ў прыязнай і сымпатычнай атмасфэры.

### З ХРОНІКІ ЗБМА Ў НЬЮ ЁРКУ

12 травеня Згуртаваньне Беларускае Моладзі ладзіла Веснавы Баль, гэтак адзначыўшы другія ўгодкі Беларускага Спартовага Клюбу «Беларусь». Даход з балю пайшоў на арганізацыйныя выдаткі. Публіка весела правяла час сярод нашае моладзі.

☆

Стараньнем ураду ЗБМ у Нью Ёрку, 19 травеня адбыўся ў Лейбор Тэмпл канцэрт мужчынскага хору «Жалейка» з Монтрэалю (Канада). Пасьля канцэрту адбылося прыняцьце для хору й гасьцей.

☆

31 травеня

Дзявочая валейбольная дружына мела сустрэчу з дружынай Лацінска-Амэрыканскага Клюбу ў памешканьні ІВКА.

☆

22 чэрвеня 1956 году ЗБМ у Нью Ёрку закончыць свой летні сэзон у ІВКА. Заканчэньне адбудзецца ў ваднэй із заляў ІВКА з выступаў нашых артыстак і артыстых, зь песьняю й гумарам. Госьцем гэтага вечару будзе, паміж іншых, сп-ня Барбара Вержбаловіч, якая прыбыла зь Нямеччыны.

# Нацыянальнае пытаньне ў сучаснай савецкай гістарыяграфіі

XX зьезд КПСС высунуў ленінскі прынцып разьвязаньня нацыянальнага пытаньня — **сацыялізм не адмаўляе нацыянальных асаблівасьцяў і нацыянальнай культуры.** Разам з гэтым падымалася пытаньне перагляду ў савецкай гістарыяграфіі некаторых пазыцыяў, зьвязаных з хвальшывым насьвятленьнем гісторыі народаў. Першым чынам зь гісторыі вызвольных рухаў, зь гісторыі ўстанаўленьня савецкае ўлады і зь гісторыі царскага каляніялізму, які паказваўся апошнімі гадамі ў зыдэялізаваным выглядзе. Памылковае тлумачэньне гісторыі прыпісваецца сьхільнасьці савецкіх гісторыкаў перад культам асобы, перад аўтарытэтам Сталіна. Сталін, такім чынам, спрычыніўся да русыфікацыі гісторыі нерасейскіх народаў СССР.

Паўстае пытаньне шчырасьці гэтага «прызнаньня» да памылковага тлумачэньня гісторыі савецкай гістарычнай навукай, а таксама ейнае мэтанакіраванасьці, бо XX зьезд КПСС прызнаў яшчэ правільнай, марксістоўска-ленінскай палітыку партыі, праводжаную ў жыцьцё ад дня сьмерці Сталіна. Была-б пасьлядоўнай зьмена ў гэтым кірунку і савецкае гістарычнае навукі. Яна заўсёды адлюстроўвае ідэялёгію партыі. Аднак, пераглядаючы гістарычную й прапагандовую савецкую літаратуру гэтага пэрыяду, мы сьцьвярджаем наяўнасьць у ёй і «сталінскага» культу, і сталінскіх нормаў: сыстэматычна праводзіцца хвальсыфікацыя й русыфікацыя гісторыі нерасейскіх народаў, даходзячы да ўтажсамленьня Савецкага Саюзу з Расеяй, Расеі зь Кіеўскай Русьсю, гісторыі народаў СССР зь гісторыяй расейскага народу. Возьмем хоць-бы «Историю БССР», выданую ў 1954 годзе. Гэта апалёгія расейшчыны. Беларускі нацыянальны характар гэтай «Истории» і заключаецца ў тым, што ў ёй успамінаецца час-да-часу тэрмін «беларускі»: нацыянальная па форме і расейская па зьместу.

І так было ў той час, калі савецкая гістарычная навука насіла «многанацыянальны характар» і ставілася «з глыбокай пашанай да гісторыі й нацыянальных традыцыяў усіх народаў» («Вопросы истории», 3/1955, б. 4).

«У сваёй нацыянальнай палітыцы партыя выходзіла й выходзіць зь ленінскага становішча аб тым, што сацыялізм ня толькі не адкідае нацыянальных розьніцаў і асаблівасьцяў, але, наадварот, забясьпечвае развой і роскві́т эканомікі й культуры ўсіх нацыяў і народнасьцяў», — гаворыцца ў Рэзалюцыі XX зьезду КПСС. Гэта мусіла-б азначаць і тое становішча, што сацыялізм не дае нікому права адмаўляць нацыянальных асаблівасьцяў і культуры народаў, як права разьлічанае на дэнацыяналізацыю культуры й гісторыі аднаго народу ў карысьць гісторыі й культуры другога народу. Выходзячы з аднаго і з другога становішчаў, выпадала-б паставіць пытаньне грунтоўнага перагляду ў савецкай гістарыяграфіі як дасюлешніх канцэпцыяў і «сталінскіх» нормаў, так і працаў зь гісторыі паасобных народаў, выданых хоць-бы й у часе калектыўнага кіраўніцтва. Якраз у працах зь гісторыі адлюстроўваецца характар нацыянальнай культуры й нацыянальных асаблівасьцяў, які, нажаль, быў паказаны ў гэтых працах у схвальшаваным выглядзе.

Аднак, прызнаючы такую пастаноўку пытаньня ці пытаньне, як выказалася А. М. Панкратава на XX зьезьдзе КПСС, «больш правільнага насьвятленьня гісторыі народаў» і «працягваньня змаганьня на два фронты — супраць вялікадзяржаўнага шавінізму і мясцовага нацыяналізму», акадэмік Панкратава не забылася таксама прызнаць зусім цэннымі «навуковыя й дасьледчыя» працы, выдадзеныя ў Савецкім Саюзе, «зь гісторыі паасобных народаў», як палічыць «зусім правільным падкрэсьліваньне савецкімі гісторыкамі прагрэсыўнага значэньня прылучэньня народаў да Расеі» («Праўда», 22 лютага 1956).

Што-ж у запраўднасьці зьменьвае палажэньне? Недастаткова прызнацца толькі да памылковасьці савецкае гістарычнае навукі. Недастаткова таксама зрэгабілітаваць пару нацыянальных герояў, як, прыкладам, змагара супраць царскае каляніяльнае палітыкі на Каўказе горца Шаміля, і сьцьвердзіць, што каляніялізм ёсьць уціскам для народу. Аб гэтым шмат ужо гаварылася і перад XX зьездам КПСС, рабілася аднак іначай. Ня што другое прадказвае і актуальнае «прызнаньне», бо галоўным заданьнем партыі застаецца змаганьне з праявамі мясцовага нацыяналізму, а таксама прапагаваньне каляніялізму пад выглядам таго, што «шырокія масы народу салідарызуюцца ня гледзячы на тую ці іншую каляніяльную палітыку дзяржаваў» («Вопросы истории», 3/1956, б. 84—95; 167—170).

Мы ня маем ніякіх падставаў прадбачваць аб'ектыўнага насьвятленьня гісторыі нерасейскіх народаў. Папершае, што заказныя «Истории» зь гісторыі гэтых народаў застаюцца «насьветленымі» з марксістоўска-ленінскіх пазыцыяў (гл. на гэту тэму артыкул у часапісе «Коммунист», 5/1956, б. 112—121). Падругое, што няма ніякіх прадбачваньняў рэгабілітацыі гісторыкаў нацыянальных рэспублік і іхніх працаў зь гісторыі сваіх народаў. Тымчасам А. М. Панкратава, якая першая з савецкіх гісторыкаў абвінавачвала гісторыкаў у «буржуазна-нацыяналістычных» адхіленьнях і М. Н. Пакроўскага ў «антымарксістоўскіх паглядах на канкрэтнае разьвіцьцё Расеі», бо гэты срога асуджаў расейскую каляніяльную палітыку, называючы яе абсалютным злом, застаецца зноў вернай служкай партыі і камуністычнай ідэялёгіі. А академік Панкратава вельмі высока ўзьносіла Сталіна, геніяльнасьць і гордасьць расейскага народу.

Так, што «больш правільнае насьвятленьне гісторыі народаў», высунутае на XX зьезьдзе КПСС, застаецца толькі адводным лёзунгам, пад які намагаецца захаваць калектыўнае кіраўніцтва злачынства савецкага рэжыму. Ён быў патрэбны для аслабленьня нутраных супярэчнасьцяў, а таксама і з пэрспэктывы вонкавае палітыкі.

Ведама, яшчэ трэба было знайсьці фікцыйнага віноўніка жудасьці савецкага рэжыму і савецкае гістарычнае навукі. Ім стаўся Сталін — так зьненавіджаная асоба ў савецкім грамадзтве і бескампрамісны палітык у міжнародных дачыненьнях. Аднак было-б памылкова думаць, што сталінская ідэялёгія зьнікне разам з асуджэньнем ягонае асобы. Сталін быў таксама добрым марксістым савецкага крою.

Гэтай ідэялёгіі будзе поўнасьцяй падпарадкавана і савецкая гістарычная навука.

П. У.

# Цар зьвяроў і крытыка

**Ад Рэдакцыі:**

У падкамуністычных краінах, пісьменьнік ня можа сказаць голай праўды аб палажэньні, вытвараным камуністычнымі валадарамі. Для сьмялейшых пісьменьнікаў адзінай магчымасьцяй сказаць нейкім чынам праўду, зьяўляецца выкарыстоўваньне такіх жанраў, як напрыклад, байка. Мы й зьмяшчаем ніжэй такую байку, якую напісаў чэскі пісьменьнік Іры Марэк, ды якая была зьмешчана ў праскай газэце «Літэрарнэ Новіны». Лічым, што камэнтары да яе былі-б лішнімі.

☆

У зьвярыным царстве, дзе валадарыць цар Леў, нядаўна шмат гаварылася аб адчыненьні дзьвярэй для крытыкі. Гэта няпрыемная справа — не для тых, што крытыкуюць (яны-ж у бальшыні выпадкаў безадказныя стварэньні), — гэта няпрыемная справа для адказных урадоўцаў. Адчыніць дзьверы для крытыкі — чаму не? Але ці хопіць сілы заперці іх у адпаведны час?

Вось чаму цар Леў перадумаў глыбока гэтую справу, і — улічваючы ўсе магчымасьці — загадаў, каб на крытыку была зьвернута належная ўвага.

Малпы адразу-ж запрапанавалі сваю дапамогу, хвалячыся сваім спрытам.

— Не, не, — сказаў цар Леў. — Разгляд крытыкі й скаргаў павінен быць давераны адборным асобам, якіх паважаюць, і якія ўмеюць заладжваць падобныя справы.

І ён загадаў Тыгру, Ваўку й Лісіцы дакладна разгледзець усе праявы незадаваленьня, ды зрабіць належныя высновы.

І вось Тыгр усеўся побач сьцежкі, якая вяла да вадапою. Няма дзіва, што зьвяры спачатку вагаліся. Але пасьля паўторных заклікаў не баяцца і сьмела крытыкаваць, зьявілася ўрэшце перад Тыграм Сарна.

— Вось і добра! — сказаў Тыгр. — Ня бойся, дарагая сяброўка, і скажы мне ў прынцыпе: што здарылася?

— Справа вось у чым. — сказала нясьмела Сарна. — Нашая паша задалёка адсюль. Мы марнуем палавіну дня на дарогу. Мы жаліліся ўсюды, але нададарэмна. Якія-ж гэта клопаты аб працоўных?

— Маеш поўную рацыю, — адказаў Тыгр на гэта. Паша запраўды задалёка. Я ўжо дагадваюся, што ты хочаш запрапанаваць, каб выдзяліць вам пашу бліжэй. А вохці! Ня лёгкая гэта праблема! Але нічога, я яе неяк заладжу — можаш быць спакойнай!

Сарна падзякавала яму, і Тыгр паглядзеў на яе зь відавочным задаваленьнем. У мамэнт, калі яна пакідала бюро, ён скочыў на яе і зьеў.

«Трэба ўлічваць усе магчымасьці» — сказаў ён сам сабе.

У гэты-ж час, Воўк таксама ўрадаваў.

— Раскажы мне ўсё, і па магчымасьці як найбольш падрабязна, — сказаў ён авечцы, якая прыйшла да яго із сваімі скаргамі. — Ты не ўяўляеш, як важна ведаць усе дэталі. Інакш нельга быць справядлівым. Ня бойся — гэта застанецца між намі.

Авечцы гэта вельмі спадабалася, і яна вылажыла Ваўку ўсе свае крыўды. Яна вылічыла ўсіх сваіх ворагаў — Лісіцу, Леапарда, Рыся, Тыгра — із зусім зразумелых прычынаў не ўспамінаючы толькі Ваўка.

Воўк быў глыбока крануты.

— Такая мілая авечка, а столькі ворагаў! Куды мы гэтак зойдзем? — папытаўся ён сам сябе. — Гэта ня жыцьцё, мая дарагая, — сказаў ён урэшце глыбока засмучаны. — Трэба знайсьці выхад!

Каб скончыць з авеччынымі турботамі з прычыны ейных шматлікіх ворагаў — Воўк зьеў яе.

Лісіца таксама выконвала свае абавязкі. Яна прыняла дэлегацыю застрашаных Курэй. Пагаварыла яна зь імі пасяброўску, зусім не выкарыстоўваючы свае прыроднае хітрасьці, каб ашукаць Курэй, якія прыйшлі із сваімі скаргамі й крытыкай.

Наадварот — яна самакрытычна прызнала, што ейныя веды аб жыцьці ў куратніку далёка няпоўныя, і папрасіла дазволу пазнаёміцца з гэтым складаным пытаньнем на месцы. За кароткі час яна прыбыла на тры кілаграмы.

Аднаго дня цар Леў прыгадаў сваю пастанову ды паклікаў да сябе назначаных ім спэцыялістых.

— Ну, як праца?

— Калектыўная, — адказалі яны.

— Прыемна чуць, — сказаў Леў. — А як із скаргамі?

— Яны ўзятыя пад увагу, — з пашанай адказаў Тыгр.

— А іх шмат, — уздыхнула Лісіца. Часамі навет ня ведаеш, куды перш кінуцца.

— Але, але, — сказаў Воўк. —Мы робім усё, што можам.

— На гэта-ж я вас і паставіў, — пацягнуўся задаволена Леў. — А цікава, ці хто-небудзь прыходзіць із скаргамі па два разы?

— Ніколі, — адказалі ўсе тры ў вадзін голас.

— Так і павінна быць, — сказаў Леў. Ён паклікаў пісара — самага вучонага Бусла: — Запішы пастанову. Пішы: «Пасьля дыскусіі і ўсебаковага абмеркаваньня было сьцьверджана, што вынікі працы адмысловае камісіі для разгляду скаргаў выявіліся надзвычайна добрымі». — Ці трэба вам падмога? — зьвярнуўся цар Леў да сваіх памагатых.

— Не, абыйдземся, — адказаў Тыгр. — Мая сям'я мне крыху памагае.

Цар Леў улёгся зноў.

«Я — справядлівы валадар, і раблю ўсё, што ў маіх сілах», — сказаў ён сам сабе засынаючы.

# Чарговая высяленьне ў Сібір

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

родных краінаў, гэта лік, кінуты на вецер, а ў запраўднасьці ён будзе шмат большы. Начальнік разьмяшчэньня прадуктыўных сілаў дзяржпляну СССР С. Токараў заявіў карэспандэнту «Краснэй Зьвязды» (у нумары з 17. 5. 1956), што колькасьць работнікаў і служачых у ўсходніх акругах за пяцігодку павінна павялічыцца на тры мільёны. Значыцца, на высылцы поўмільёна моладзі ня скончыцца.

Як ведама, у шостай пяцігодцы прадбачыцца значнае перасоўваньне цяжкай прамысловасьці з эўрапэйскай часьці Савецкага Саюзу ў Сібір. Гэтак запляванае будаўніцтва гідраэлектрастанцыяў на Обі, Іртышы, Ангары і Енісеі, цеплавых электрастанцыяў у Кузбасе, Краснаярску і Паўладары, будаўніцтва новых вуглякопных шахтаў у Кузбасе, Краснаярскім краі, Іркуцкай акрузе і інш. Апрача гэтага, маюць быць разбудаваныя мэталюргічныя базы ў Карагандзе, Кузбасе, Краснаярскім краі і ў Іркуцкай акрузе, якія за дзьве-тры новыя пяцігодкі павінны даваць 15—20 мільёнаў тонаў зялеза. Ужо ў цяперашняй пяцігодцы мае быць пабудавана на Ўсходзе звыш сотні машынабудаўляных заводаў. Апрача гэтага, маюць быць там пашыраныя лесараспрацоўкі, лёгкая прамысловасьць і пабудавана мноства жыльлёвых памешканьняў для новапрыбылых работнікаў. Усе гэтыя заданьні будуць вымагаць вялізарнае колькасьці работніцкай сілы, якая, пэўне-ж, будзе рэкрутавацца зь нерасейскіх частак савецкае імпэрыі. Такім чынам трэба спадзявацца, што за першым поўмільёнам моладзі, — а й гэтая колькасьць ужо вялізарная — пойдуць і далейшыя поўмільёны.

Гэта, як і многа іншых фактаў, паказвае, што інстытуцыя прымусовай нявольніцкай працы ў Савецкім Саюзе астаецца ў поўнай сіле й пры «калектыўным кіраўніцтве». Гэта адзін з наглядных довадаў, што весткі аб маючай наступіць ліквідацыі лягераў прымусовае працы або адмена закону з 26 чэрвеня 1940 г. аб крымінальных карах за г. зв. прагулы і аб прымусовым прымацаваньні работнікаў да прадпрыемства зьяўляюцца пэрфідным абманам, разьлічаным толькі на прапагандовы эфэкт. Заведзеная Сталінам сыстэма нявольніцкае працы астаецца й надалей, адно ў больш тонкай і завуаляванай форме.

Л. К.

## АБВЕСТКА

Хлапец Беларус з Канады жадае пазнаёміцца зь дзяўчынай або жанчынай да 32 год з мэтай жаніцьбы. Просіцца пісаць дзеля справак у Адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

# СПРАСТАВАНЬНЕ

**У газэце «Українській Самостійнік» за 10 чэрвеня была зьмешчаная зацемка пад загалоўкам «Новыя вятры з Заходу». Лічым сваім абавязкам зазначыць, што падаваныя там «факты» зь дзейнасьці беларускае эміграцыі проста высмактаныя з пальца. У зацемцы, напрыклад, прыводзяцца словы Прэзыдэнта Абрамчыка, якія ён сказаў быццам-бы Прэзыдэнту УНР Вітвіцкаму сёлета на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью Ёрку. Вось-жа 25 сакавіка гэтага году Прэзыдэнт Абрамчык быў ня ў Нью Ёрку, а ў Парыжы. Хіба паважаная Рэдакцыя «УС» згодзіцца з намі, што будучы ў Парыжы, Прэз. Абрамчык ніяк ня мог гутарыць з Прэз. УНР у Нью Ёрку.**

**У зацемцы, між іншага, знаходзім гэткі сказ: «... Не бяз прычыны хвалююцца і ўкраінскія рамесьнікі радыятычнае акцыі, якім, nota bene, нядаўна далі зразумець, што іхная рэдакцыя ўважаецца далёка горшай навет за беларускую» (падкр. нашы — Рэд.).**

**Тон гаворыць сам за сябе, і камэнтароў не патрабуе. Лічым толькі патрэбным адцеміць, што беларускае грамадзтва, якое — nota bene, — працаўнікоў Беларускае Сэкцыі радыя «Вызваленьне» рамесьнікамі ня лічыць, выдэлегавала гэтых людзей як дзеля таго, што лічыць працу ў радыі карыснай і важнай, так і дзеля абароны беларускіх пазыцыяў у радыі «Вызваленьне». Беларускае грамадзтва ганарыцца тым, што Беларуская сэкцыя зьяўляецца аднэй з найлепшых, аб чым ня раз давodзілася чуць з аўтарытэтных крыніцаў. Вось чаму падкрэсьленае нам ў вытрымцы слова «навет» — не гаворачы ўжо аб ягоным абразьлівым сэньсе ў гэтым кантэксьце — нічым сябе не апраўдвае.**

**Выражаем надзею, што пав. Рэдакцыя «Українського Самостійніка» будзе ў будучыні падыходзіць больш крытычна да зьмяшчаных ёю матарыялаў. Падобныя рэчы выклікаюць нясмак, і ніяк не спрычыняюцца да захаваньня здаровае й сяброўскае атмасфэры між нашымі народамі у іхным змаганьні за супольныя ідэалы.**

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

**Шмат было іх чужых-чужаніцаў,**
**і кажны нам косьці крывіў.**
**З нашмі сёстрамі праглі жаніцца,**
**напіцца каб болей крыві.**

**Дык таму і трасуцца асіны —**
**сіроты, як-бы безь сям'і.**
**Знаем, хто вусны дасіня насініў**
**і раны цалуе зямлі.**

**26. V. 1926 г.**

**Язэп Пушча**



БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**